www.nv-online.info

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадо...
Якуб КОЛАС

№ 20 (4169)

10 сакавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля»*
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

АФІЦЫЙНА

# Аляксандр Лукашэнка загадаў не спаганяць «падатак на дармаедства» да канца года

Дэкрэт №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства» адмяняць не стануць, але на працягу года даручана не спаганяць адпаведны збор. Пра гэта заявіў Аляксандр Лукашэнка ўчора на нарадзе аб актуальных пытаннях развіцця краіны, паведамляе прэс-служба прэзідэнта.

*«На працягу сакавіка, калі трэба, нам патрэбна падкарэкціраваць гэты дэкрэт. Але дэкрэт адмяняцца не будзе, – падкрэсліў Лукашэнка. – Перадайце перш за ўсё чыноўнікам, што ён будзе выконвацца з тымі карэкціроўкамі, пра якія я казаў. Я, натуральна, назіраю, наколькі гэта магчыма, і адсочваю ўсякую пісаніну ў СМІ – і апазіцыйных, і праўладных. І ведаю заявы прадстаўнікоў пятай калоны і сёе-тое яшчэ – тое, чаго грамадства не ведае».*

Паводле слоў Лукашэнкі, гэты дэкрэт не з'яўляецца эканамічным і фінансавым. *«Гэта ідэалагічны, маральны дэкрэт. Ніякіх там вялікіх грошай дзяржава не атрымае. Мэтай гэтага дэкрэта з'яўляецца адно – прымусіць працаваць тых, хто павінен і хто можа. Гэта галоўнае»*, – сказаў кіраўнік дзяржавы.

Пры гэтым ён указаў на «агіднае і безадказнае выкананне дэкрэта з боку адказных чыноўнікаў». *«Кожны старшыня райвыканкама, кіраўнікі адміністрацый у гарадах, раённых адміністрацый – гэта іх перш за ўсё праца. А кантроль – за "губернатарамі" і "мэрам" Мінска. У вас там павінны быць гэтыя спісы гультаёў, якіх трэба прымусіць працаваць, а сумленных людзей не трэба было чапаць наогул. Мы не павінны крыўдзіць людзей, асабліва ў гэты час. І тыя, хто сёння па 200–500 чалавек выходзяць на вуліцы і пачынаюць крычаць, гэта ж не тыя дармаеды, якія сапраўды дармаеды. Гэта ў асноўным тыя людзі, якія пакрыўджаны, якім мы ні з таго ні з гэтага паслалі гэтыя паведамленні»*, – сказаў кіраўнік дзяржавы.

Ён даручыў да 1 красавіка вызначыць спісы тых, хто павінен уносіць плацяжы на падставе дэкрэта №3. *«Спісы павінны быць вывераныя. Прыцягнуць трэба ўсіх – дэпутатаў мясцовых Саветаў, міліцыю, участковых, спецслужбы – усіх прыцягнуць, але скласці гэтыя спісы*, – заявіў Лукашэнка. – *Яны павінны быць у кожнага старшыні гар- і райвыканкама, кіраўнікоў адміністрацый у абласных цэнтрах і горадзе Мінску. А Адміністрацыя прэзідэнта разам з урадам павінна арганізаваць кантроль за выкананнем гэтага рашэння. І, не дай бог, вы пакрыўдзіце хоць аднаго чалавека!..»*

Кіраўнік дзяржавы таксама даручыў на працягу 2017 года не спаганяць у рамках дэкрэта №3 збор з тых, хто будзе ўнесены ў адпаведныя спісы. *«Хто аплаціў у 2016 годзе, пойдзе ў залік 2017 года, калі ён не будзе працаваць. Калі ён паступіць на працу, мы з бюджэту па яго патрабаванні вернем гэтыя грошы»*, – паабяцаў Лукашэнка.

Ён таксама дадаў: *«У 2016 годзе пэўная колькасць (гэта тысячы людзей), не аспрэчваючы, унесла плацяжы. Сёння я здымаю патрабаванне, каб усе, каго мы вычленім за першы квартал, плацілі гэтыя грошы. Не будзем за 2016 год спаганяць гэтыя грошы з тых, хто павінен плаціць. А тыя, хто заплаціў, тыя ў 2017-м не будуць плаціць. Калі яны будуць працаваць у 2017 годзе, мы павінны па іх патрабаванні вярнуць гэтыя грошы».*

Тэрмін выплаты збору ў адпаведнасці з дэкрэтам №3 скончыўся 20 лютага. Неплацельшчыкам пагражае штраф або адміністрацыйны арышт да 15 сутак з прыцягненнем да грамадскіх работ. Паводле дадзеных Міністэрства па падатках і зборах, на 21 лютага збор заплацілі больш за 54 тыс. чалавек з 470 тыс., якім былі разасланы паведамленні. У мясцовыя бюджэты паступіла 16,3 млн рублёў.

Як паведамілі ў прэс-службе Міністэрства па падатках і зборах, абноўленых дадзеных аб выплаце збору ў міністэрства няма і ў найбліжэйшы час яны запытвацца не будуць.

**Таццяна КАРАВЯНКОВА.**
(БелаПАН).

БЛІЦ

# Разняволенне бізнесу: што для гэтага трэба зрабіць дзяржаве?

**Сяргей БАЛЫКІН, кіраўнік Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва:**

– Дзяржаве якраз нічога рабіць і не трэба. Чым менш яна будзе ўмешвацца ў справы прадпрымальнікаў, тым лепш будзе для бізнесу, для эканомікі, для краіны.

Трэба перастаць выпускаць шматлікія нарматыўныя акты, адмяніць абмежаванні, якія за апошнія чвэрць стагоддзя былі ўстаноўлены для бізнесу. Замест гэтага стварыць даволі простыя правілы гульні, якія будуць зразумелыя любому прадпрымальніку, а не толькі тым, хто толькі сядзіць і вывучае гэтыя шматлікія інструкцыі.

**Сяргей ПЯТРОЎСКІ, прадпрымальнік (Магілёў):**

– Паменшыць і скараціць колькасць падаткаў.

Скасаваць большасць правяраючых арганізацый.

Падняць дабрабыт народа.

**Алег ДУБКО, гаспадар аграсядзібы 'Музычны кут":**

– Не сакрэт, што сёння бізнесу перашкаджаюць працаваць чыноўнікі, якія прымаюць даволі непапулярныя рашэнні.

Добра, што дазволілі замежнікам наведваць Беларусь без візы на пяць дзён. Праўда, забаранілі праводзіць вяселлі ў аграсядзібах.

А чыноўнікаў, якія перашкаджаюць бізнесу, я параіў бы накіроўваць на спецыяльныя курсы.

**Уладзімір ЛАБУНОЎ, акадэмік, член групы дарадцаў Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, кіраўнік Камітэта па інфармацыйных тэхналогіях БНПА:**

– Адказ ужо ў вашым пытанні закладзены: не занявольваць! Даць бізнесу поўную свабоду трэба, вось і ўсё.

**Васіль ШЛЫНДЗІКАЎ, эканаміст, былы кіраўнік машынабудаўнічага канцэрна "Амкадор":**

– Па-першае, неабходна нацэліць нашы рэпрэсіўныя органы на барацьбу не з бізнесменамі, а са злачыннасцю. А то ў нас у турмах сёння – цвет нацыі!

Па-другое, трэба стварыць незалежную судовую сістэму.

Можна і пра іншае казаць, але гэта – самае галоўнае.

**Віктар МАРГЕЛАЎ, эканаміст, прадпрымальнік, сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва:**

– Першае і самае галоўнае – фарміраванне базавых умоў для вядзення бізнесу. Ёсць рэчы, якія не сумяшчальныя з вядзеннем бізнесу: канфіскацыя, штрафы і г.д., у выніку якіх у многіх прадпрымальнікаў выдаткі перавышаюць прыбыткі.

Другое – гэта адмысловыя ўмовы для вядзення бізнесу, якія цяпер якраз фармулююцца ў рамках работы працоўнай групы, створанай па распараджэнні А.Лукашэнкі. Гэта пытанні тэхнічнага нарміравання, санітарных абмежаванняў, адміністрацыйных працэдур, адкрыцця і закрыцця бізнесу. Пакуль гэтыя моманты будуць прыносіць галаўны боль, ні пра якое разняволенне бізнесу гаворку весці нельга!

Трэцяе – рэалізацыя комплексных праграм развіцця бізнесу. У нас павінна быць канкрэтная стратэгія: куды мы накіроўваемся, што развіваем. Мы павінны вызначыць прыярытэты: што менавіта развіваць. Ёсць галіны, якія валодаюць высокай дабаўленай вартасцю, яны могуць пацягнуць за сабой астатнюю эканоміку краіны. Сфера гандлю дакладна не з'яўляецца такой галіной. Адпаведна павінны быць комплексныя праграмы, комплексны план дзеянняў. І такім чынам, развіваючы бізнес, мы будзем развіваць астатнюю эканоміку. Нічога складанага ў гэтым няма.

**Віталь АХРЭМЧЫК, прадпрымальнік:**

– Ёсць стары анекдот пра сантэхніка, які кажа: «Усю сістэму мяняць трэба». Так і тут. Мяняць трэба ўсё, пачынаючы з судовай сістэмы. У краіне павінны быць прыватная ўласнасць на зямлю, свабода слова, павінны выконвацца правы чалавека. Тады і бізнесу будзе дыхацца вольна. А ўсё астатняе – дэталі.

**Марына КОКТЫШ.**

СУСЕДЗІ




## У ЕС — без візы

Камітэт Еўрапарламента па грамадзянскіх свабодах, юстыцыі і ўнутраных справах ухваліў законапраект аб унясенні Украіны ў спіс краін, грамадзянам якіх не патрабуецца віза для паездак у ЕС.

Наступным этапам па ўсталяванні бязвізавага рэжыму для грамадзян Украіны стане разгляд адпаведнага законапраекта на пасяджэнні Еўрапарламента, якое намечана на 5 красавіка. Пасля гэтага яго павінен зацвердзіць Савет ЕС.

Раней у 2017 годзе Еўрапарламент ухваліў адмену віз для Грузіі. Бязвізавы рэжым наведвання ЕС для грамадзян гэтай краіны ўступіць у сілу з 28 сакавіка.

Калі ж беларусы змогуць наведваць еўрапейскія краіны без віз?

ЯНЫ – ПРА НАС

## Дзярждэпартамент ЗША: у Беларусі па-ранейшаму немагчыма змена ўлады шляхам выбараў

Такое меркаванне выказана ў штогадовым дакладзе Дзярждэпартамента ЗША аб захаванні правоў чалавека ў 2016 годзе. У раздзеле, прысвечаным Беларусі, сцвярджаецца, што выбарчая сістэма ў нас мае шмат хібаў, не поўнасцю адпавядае дэмакратычным прынцыпам.

У дакуменце, які падпісаў новы дзяржсакратар ЗША Рэкс Тылерсан, адзначаецца таксама як негатыўны факт тое, што ў Беларусі да сённяшняга дня не расследаваны да канца выпадкі знікнення палітычных апанентаў улады. Сілавыя структуры перавышаюць свае паўнамоцтвы, што прыводзіць да парушэння правоў чалавека. Звяртаецца ўвага на тое, што ў нашых турмах зняволеныя знаходзяцца ў неспрыяльных умовах. Гаворыцца і пра тое, што ў Беларусі не ўсё ў парадку з грамадзянскімі свабодамі.

Адным словам, даклад, завераны новай адміністрацыяй ЗША, мала чым адрозніваецца ад тых, пад якімі стаялі подпісы падручных спадара Абамы.

**Фелікс ЗАХАРАЎ.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Што за дачнік без «Народнай Волі»?

Ведаем: многім нашым чытачам неабходна па-новаму аформіць падпіску на "Народную Волю". Каб атрымліваць газету і ў красавіку, наведайце любое паштовае аддзяленне альбо адзін са спецыялізаваных пунктаў "Белсаюздруку" да 28 сакавіка. Прадоўжыць падпіску можна як на месяц, так і на ўвесь перыяд да канца першага паўгоддзя.

Не за гарамі дачны сезон. І хто-ніхто з садаводаў-агароднікаў на летні перыяд спыняе падпіску. А дарэмна. Не хочацца, каб на некалькі месяцаў Вы, шаноўныя, заставаліся без "Народнай Волі".

Пакуль Вы знаходзіцеся за горадам, нейкія нячысцікі ўзламаюць у пад'ездзе паштовую скрыню і выцягнуць газету? Гэтая праблема вырашаецца такім чынам. Ад'язджаючы на лецішча, Вы заходзіце на пошту і кажаце: "Няхай усе нумары газеты застаюцца ў вас. Буду забіраць падчас прыезду ў горад альбо аддавайце маім родзічам, якія па выхадных наведваюцца да мяне за горад".

Калі Вы атрымліваеце газету праз "Белсаюздрук", то тое ж самае можна вырашыць праз самы бліжэйшы шапік.

Адным словам, што за дачнік без "Народнай Волі"?

Застанёмся разам сёння, заўтра і заўжды.

*Вы – з "Народнай Воляй", "Народная Воля" – з Вамі!*

ФАКТ

## Золатавалютныя рэзервы – больш за 5 мільярдаў долараў

Вось вам, чытачы, і станоўчая інфармацыя. Золатавалютныя рэзервы нашай краіны перавысілі ўжо 5 мільярдаў долараў. Такі паказчык дасягнуты ўпершыню за два апошнія гады. Калі верыць прагнозам Нацбанка, то сёлета яны выраступь яшчэ не менш, чым на 500 мільёнаў долараў.

**Маргарыта КУДЗЕЛЬСКАЯ.**

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## ОПАСНАЯ справедливость

Задачка: если в Конституции закреплено право на бесплатное медицинское обслуживание, то как заставить людей за медицину платить? Да так, чтобы все было законно, обоснованно и будто бы даже по справедливости…

У меня для вас, читатели, плохая новость. В Беларуси нашлись специалисты, которые додумались, как эту задачку решить. И если их предложение примут, то это, не исключено, будет похлеще декрета о тунеядстве.

Автор идеи – председатель этической комиссии Белорусской ассоциации врачей, доктор медицинских наук, профессор Владимир Крылов, и со страниц ведомственной газеты «Медицинский вестник» его уже кое-кто поддержал.

Суть идеи проста: разделить ответственность за лечение между врачом и больным. И для этого принять Кодекс пациента, в котором предусмотреть, что если больной не выполняет рекомендации врача, то он должен будет оплачивать лечение полностью или частично.

Кардиолог Крылов привел в качестве примера своего больного-сердечника, который, вопреки рекомендациям доктора, не бросает курить, а лекарства принимает только в том случае, если сильно прижмет.

Депутат Ирина Петрова, в прошлом – главврач Глусской районной больницы, имеет примеров побольше. *«Если человек, который каждый год болеет гриппом, отказывается от вакцинации, справедливо в следующий раз отказать ему в выписке больничного. Другой злоупотребляет алкоголем, но не хочет лечиться у нарколога, а потом попадает в больницу с панкреатитом. При существующей очереди на плановое вмешательство его правильнее «подвинуть», сначала прооперировать того, кто не оказывал противодействия медработникам».*

Депутат Дмитрий Шевцов, в прошлом главврач столичной 34-й поликлиники, тоже «за». *«На Западе, если доктор выявляет риски, а пациент ничего не меняет в жизни, на следующий год его выплаты по страховке возрастают на 10–15%, а в дальнейшем — на добрую половину. Логика простая: зачем страховой компании брать на себя ответственность за человека, который своим поведением заведомо ввергает ее в большие затраты? Для западного здравоохранения очевидно: прежний образ жизни и невнимание к себе со стороны больного влекут прямой рост затрат на медицинскую помощь. Через 5 лет нерадивому сердечнику потребуется шунтирование или другая сложная высокотехнологичная операция»*, – заявил депутат-доктор.

Интересная история получается. Некоторое время назад медицинская общественность активно обсуждала, как бороться с теми, кто слишком часто ходит в поликлинику и мешает врачам работать. Хотели даже за вход в поликлинику плату ввести. Сейчас они вдруг озаботились теми, кто совсем не ходит к докторам (или только тогда, когда совсем прижмет) и не желает правильно лечиться. С чего вдруг такие шарахания? Всё банально: упорно ищут, как под благовидным предлогом содрать с людей деньги.

Понятно, что если не брать наследственные болезни, случайные травмы и врачебные ошибки, то все наши хвори – это наша жизнь. У кого-то сидячий образ жизни, и у него отложение солей, кто-то, наоборот, всю жизнь на ногах, и у него варикоз. Кто-то налегает на жареное и испытывает на выносливость свою поджелудочную железу, кто-то совсем отказывается от жира и тем самым проверяет свой желчный пузырь. Кто-то любит кофе, который вымывает кальций, кто-то пьет крепкий чай, который тоже разрушает кости. Лишний вес – целиком и полностью вина пациента, излишняя худоба, впрочем, тоже. И что? Все мы теперь будем обязаны платить за медицинское обслуживание только потому, что живем?

Больным астмой нужен горный воздух. Много белорусов могут поехать в горы?

Больным псориазом нужно море. Много белорусов могут регулярно ездить на море?

Да те же жирные кислоты «Омега-3» и «Омега-6», которые нужны всем, многие себе могут позволить? Хоть в витаминах (50 долларов упаковка), хоть в натуральном виде – в икре и осетровых…

Все эти красивые рассуждения докторов, прикрытые заботой о нашем здоровье, на самом деле, как мне кажется, совсем о другом. Они – о бюджете, о том, как государству зарабатывать на больных людях. Поиск денег, поиск дополнительных источников доходов стал навязчивой идеей медицинского ведомства.

Но не вляпаться бы здесь так, как вляпались с декретом №3 о так называемых «дармоедах».

